# НЁМАН

Літаратурна-Мастацка-Навуковы
месячнік

№ 4.

Вільня — 1932 г.

# НЁМАН

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКА - НАВУКОВЫ МЕСЯЧНІК.

1932. МАЙ—ЧЭРВЕНЬ 1932.

| Кіжка IV | Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Партовая вуліца 28, 10. | Падпіска на год. . 6 зал<br>На паўгоду . . . 3 зал<br>На 3 месяцы. 1 зал. 75 гр.<br>Адна кніжка . . 70 гр. |
|---|---|---|



НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА.

## Вечар.

Вецер вячорны па клёнах
Шпарка прамкнуўся... і згінуў,
Кінуў у сьлед палатніну
Пахаў зялёных.

У вузкіх кутох між дамамі
Цень сіняваты гусьцее.
Згасіў калёраў завею
Вечар над намі...

Ў цемры жывой а гарачай
Зьзяюць дзе-не-дзе лятарні.
Скочна ў далёкай кавярні
Музыка плача...

Ломяцца ў змроку вясьняным
Дзіўна—зьвінячыя гукі.
Выцягнуў шэрыя рукі
Вечар над намі...

## Вячэрні абраз.

Запалілі на плянтах *) каштаны
Сьвечкі белых, пахучых кветак.
Там... далёка ў даліне вісьлянай
Сьпіць імгла сіняватых палетак.

А над ёю хінуцца узгоркі,
Гінуць шэрыя зданьні—далі,
На заходзе шнюркам пацёркаў
Мкнуць у чырвані хмаркі—каралі.

І плыве ў неба разам з вятрамі
Сьвет мільлёнам, мільлёнам хаценьняў,
Пакуль ноч не паложыцца снамі
На палі, пахаваныя ў цені.

Пакуль пацеркі хмараў парваных
Не згараць між нябесных палетак,
І ня згасяць на плянтах каштаны
Сьвечкі белых, пахучых кветак.

Хэлмна 1931 г.

М. МАШАРА.

## Радаўніца.

Толькі песьні патрэбна краса,
А красе нават песьні ня трэба.
З Руск.

Сэрцу знова радасна
Хочацца пяяць.
Думы, думы красачкі
Вобразна кідаць.

Гэй вы, думы вольныя,
Вам-бы буры гарт.
Ветры, далі польныя,
Я—ваш меншы брат.

Буйна пераліўная
Моладасьць мая.
Песьня ты прызыўная
Веснашум жыцьця.

*) Плянты—парк, алея, прысада.

Толькі тым адзначыцца
Сьцежачка табе, —
Песьнямі ня плачу я,
А малюсь красе.

Сьцежкі камяністыя,
Мукі, ланцугі,
Песьні веснавістыя,
Спаляць вас агні.

Ноты вы сьлязьлівыя,
Вас ані ня жаль.
Нашы дні бурлівыя —
Кожны з нас каваль.

Нівы, вёскі сумныя,
Кіньце вы тугу,
Радаўніцай шумнаю
Выклічам вясну.

Цёплы вечар,
Майскі вечар.
Пахне нечым
Сьвежы вецер.
Над дарожкай
Зоры зьзяюць.
Там за вёскай
Сьпеў лунае.

Сёньня радаўніца жывая
На магілкі не пайдзём
Хай разгульна удалая,
Наша песьня маладая
З грудзей пеніцца агнём!

Зноў вясёла... Зноў прыгожа...
Зноў прыйшла да нас вясна.
Годзе гора—проч-жа сьлёзы!
Век дзяцюцтва—не цьвярозы
Прагне радасьці, жыцьця.

На прывольлі
Таюць томна,
Таюць словы
І па полі
Мкне чароўна,
Ў даль бяз мовы
Сьпеў вясновы,
Сьпеў вясёлы.

Гэта дзеўкі за ваколіцай,
Там над рэчкай, дзе чарот,
З веснашумам лету моляцца,
Завіваюць карагод.

Ім гармонік адклікаецца
Дробным рэхам у гаі
Хтось задорна зазываецца:
Хто удалы—улаві!..

. . . . . . . . . . . . . .

Зоры сьведкамі,
Як за дзеўкамі
Ды з прыпеўкамі
Увіваюцца хлапцы.

Сёньняка я—п'яны,
П'яны я красой.
Кроў узбунтавана
Радасьцю вясьнянай
Радасьцю кіпучай
І тваёй красой.

І да раніцы
У выш лунаючы
Гучна радасна
Звоніць сьмех і галасы.

Астрог „Лукішкі". 15-IV 29 г.

---

Я. ВІЛЬКОЎШЧЫК.

## Мой шлях.

Аднак маркотна жыць бяз сьветлага імкненьня,
З духоўным холадам для маладых грудзёў.
Жыцьцё кароткае так шэра без тварэньня,
Як-бы бяз красак луг, ці дрэва без пладоў.
Прайду жыцьцёвы шлях ў змаганьні і тварэньні,
Каб сьлед майго быцьця ня кончыўся з жыцьцём,
Каб бацькаўшчыны сын ў дзесятым пакаленьні
Сказаў: „Але, ён быў народным змагаром!"

## Вогнішча.

Раз дарогаю йшоў ў вандроўку я далёку,
Змарыўся вельмі я. Зьмяркацца пачало.
Зацеміў я агонь між лесу, крыху збоку,
Нацеміў там спачыць—бо з ім так весяло.

Агонь ужо патухаў. Вугле яшчэ там тлелі,
Часамі ветрык бліск раздуне крыху йзноў
Пад попелам яны ўнутры яшчэ гарэлі;
І добра жар чуваць яшчэ быў з пад вуглёў.

Так думкі даўных спраў, як-бы ужо забыты,
А вобраз будзіць іх, як вецер той вуголь,
Працягам доўгіх лет сардэчныя прыкрыты,
Як попелам жар той, прыкрыты сэрца боль.

---

М. МАШАРА.

## Песьня жаўрука.

(З веснашуму).

Веснавы дзень. Глыбокая й залацістая выш сіняга неба. Ярка сьвеціць сонка. Сьвеціць і песьціць ірдзістымі касулямі зямельку. Песьціць рунеючы аксаміт маладога жытца. Песьціць зялёны, кволы шоўк сенажаці.

Лагодны ветрык—Ох! дуронік... Ускочыць, прабяжыць па шырокаму прастору поля... Завіхрыць перанятыя на дарозе, пушыстыя каткі лазьняка і вербаў... Зашуміць па голых яшчэ галінках бяроз... Замільгаціць, заморшчыць люстраную гладзь веснавых лужын, куду заглeдзіліся, любуючыся сваей бялінёй, непарушна-ваўністыя хмарыначкі, — і ўзноў сьціхне.

У прасьветным паветры так мілагучна пяе жаўрук. Не глядзі, — не абачыш яго... Ён падняўся высака, высака і патануў там у бяздоннай сіняве. Толькі слухай... Слухай, як плывуць адтуль яго вясёлыя трэлі, — то томна цягучыя, то звонка радасныя, то буйна—пераліўныя... Ах, як прыемна слухаць... Здаецца зьвініць ня песьня жаўрука, а струны паветра, касулі яркага сонца,—пад лёгкім пераборам скрыл веснавога ветрыка.

Ах, як радасна веснавым днём!..

* * *

Гарэ араты... Стрункай выцягнулася вузенькая ніўка... Конік яго худзенькі роўненька ідзе простай баразёнкай, цягнучы цяжкі плуг. З шумам шаруе вогкая зямелька зялеза плуга. Уючыся чорнай істужкай, зграбна ложыцца новая баразёнка да сьвежай рыхлай аральлі. Часам праврвецца бліскучай стальлю, зазьзяе плуг на сонцу і ўзноў уп'ецца ў глебу і ўзноў цягнецца ўдаль роўная баразёнка...

Гарэ араты... ад раньня снуе па вузенькай ніўцы. Расьце лік баразён... шырэе чорная паласа аральлі. А ў галаве снуюць, як гэтыя барозны доўгія, чорныя, невясёлыя думкі. Цяжка яму беднаму... Замучыла гаротнае жыцьцё. Замучыла доўгая сьцюдзёная зіма. Заледзь выбіўся ён паўгалодны й абясьсілены на веснавое прывольле. І вясна не ў вясну... Няма хлеба. Няма чым карміць сямейку. Няма чым карміць скацінку.

Конік яго зморaны прыстанавіўся. Глянуў араты, жадаў крыкнуць, сьцебануць, але абачыў яго худыя бакі, — стала шкода... апусьціў галаву. Забалела сэрца. Кінуў пугу... зьняў шапку і рукавом сьвіткі абцер пот... Як-бы з дакорам падняў галаву, глянуў у неба. Прыслухаўся... Пачуў вясёлую песьню жаўрука... І памалу распагодзіўся хмарны твар. Радасьць зьвінячая,—радасьць жаўруковае песьні, разагнала чорныя думкі. Разам з ёй вера ў жыцьцё, у перамогу напоўніла сэрца. Грудзі йзноў захваляваліся прылівам сіл. І ён з новай энэргіяй узяўся за плуг. І як-бы водклікам жаўруку панёс вецер у сінюю даль, яго бадзёрны покрык— Ноо! Ноо! Гээй! Гээй!

* * *

Веснавы дзень. У сонечных касулях купаецца вёска. Грэюцца й аджываюць сялянскія хаты. Чуваць гул працы й песьні пеўня. Пахне прэлай саломай, сьвежай вадой і полем.

Веснавы дзень... Выйшла з хаты дзяўчына. Зьняла з плоту аснову і ўскінуўшы на плячо, панясла на раку. кінула аснову ў ваду. Стала пад вярбой, — задумалася... Вочы яе, сінія вочы, гледзячы на хвалі, — разгарэліся... Маладыя грудзі хвалююцца. Што з табой дзяўчына?.. Што з табой красуня? Ах сэрца... дурное сэрца... Чагось моцна, моцна б'ецца. Сэрца пачула томны прызыў жаўруковае песьні... Прызыў да радасьці... да шчасьця.

* * *

Веснавы дзень... Першы раз затрубіў пастыр. У вёс-

цы быццам сьвята. Першы раз выгналі скацінку ў поле, а за ёй вырушыла грамада вясковых дзетак.

Рада скацінка. Вясёла скубе па лугчавіне травіцу. Рады дзеткі. Урэшце скончылася нудная зіма. Вітай ізноў прастор роднага поля. Вітайце лясныя веснашумы, цёплы ветрык і яркія коскі сонца.. Бегаюць, крычаць... скачуць і заводзяць гульні. Вось там адзін адламіў галінку вербалозу, дастаў з кішані нож і майструе жалейку.

Зрабіў... Заграў.

Слухаюць дзеткі.

— Прыгожа грае, як жаўрук, — кажа адзін... і ўзноў слухаюць. Слухаюць жалейку й жаўрука,—не, не — дадае другі,—жаўрук прыгажэй! Бо яго песьня, аж кратае штось у грудзёх, а жалейка не.

І ўзноў слухаюць жалейку й жаўрука... і радасьцю загараюцца маладыя вочкі... і не адно маладое сэрца хвалюецца няўхопным, паўсьвядомым жаданьнем, падняцца туды ў выш ад песьні жалейкі, да звонка-радаснай, жывой песьні жаўрука.

А на курганочку, пад зялёным кустком яленцу, зусім недалёка ад хлапцоў, у прыгожа зьвітым гнязьдзечку сядзела на яечках, шэрая маленькая птушачка, — самка-жаўрук. Яе маленькае сэрца таксама моцна, моцна білася, але білася не ад захапленьня, не ад соладу сьпеўных гукаў, — а страху. Бо чула блізка сваіх варагоў—дзетак.

Шэрая птушачка дрыжэла ад страху за сваю волю. Але сядзела прытуліўшыся да гнязда, не ўцякала. Ёй шкада было яечак... Яечкі — яе дзеткі. Пачуцьцё маткі ў гэтай маленькай істоце перамагала страх за волю.

Пачуцьцё маткі, ня гледзячы на небясьпеку, прыкавала яе да гнязда.

Тым часам хлопцы кінулі жалейку і пачалі ля самага куста раскладаць агонь.

Адзін з размаху сьцебануў даўгой пастуськай пугай па зялёных голачках яленца.

З пад куста пырхнула шэрая маленькая птушачка.

— Птушка, птушка!—крыкнулі дзеці.

— Шукай гнязда!

І шустры, белабрысы хлопец расхінуў куст.

— Ёсьць! Ёсьць!—чатыры яечкі.

— Браць?..

— Бяры—крыкнула прысудам частка дзяцячай грамады падбягаючы да куста.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Крыху згадзя, на зямлі, каля вогнішча валяліся маленькія, шэрыя лупінкі разьбітых яечак. Навокал куста, тужліва чырыкуючы лётала маленькая, шэрая птушачка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А з неба, ўсьцяж ліліся звонкія трэлі.

Усьцяж маліўся жаўрук радасна-вясёлай песьняй сонцу й хараству жыцьця.

Усьцяж радаваў засмучоных горам людзей.

5-IV 1932 г. в. Таболы.

М. ШКЯЛЁНАК.

# Копныя суды ў Беларусі.

(Працяг).

Разгляд конструкцыі (будовы) копнага суду пачнём ад выясьненьня паходжаньня самага назову „капа“, каторы кідае некаторае сьвятло на юрыдычную будову гэтае народнае ўстановы. Паводле становішча, занятага Віленскай Археографічнай Комісіяй і сьцягам вучоных, што пісалі аб копных судох, назоў „капа“ таго-ж паходжаньня, што й „капіцца“, што значыць „**зьбірацца**“, „**грамадзіцца**“. У некаторых актах XVIII тому **капа** проста й завецца **грамадой**, гэтыя два назовы былі зусім ідэнтычныя з гледзішча іхняга юрыдычнага зьместу, а гэта пацьвярджае правільнасьць таго пагляду, што назоў „капа“ таго-ж паходжаньня, што й „капіцца“ (грамадзіцца). У некаторых мясцовасьцях, як прыкладам у Слуцкім княстве, **капа** завецца **купа** *). Сама дзейнасьць копнага суду называлася „**капаваньнем**“, „**капаваць**“. Нормальна, як загадаваў звычай, капа старалася кожную справу скончыць у тры зборкі. Першая зборка мела наўвеце выкрыць праступніка, калі ён ня быў ведамы, або злоўлены. Гэта капа завецца *гарачай*. Зразумела, што яе ня было тады, калі асоба праступніка была ведамай, дзякуючы прыкладам таму, што сам пакрыўджаны затрымаў праступніка, або бачыў яго ўцякаючага і мог адразу заявіць, хто гэта быў. Другая копная зборка адумысловага назову ня мела, затое трэйцяя капа, найважнейшая, бо на ёй выносіўся прысуд, мела аж некалькі назоваў як: **галоўная**, **завітая** **),

---

*) Так сама, як у некаторых мясцовасьцях замест „грамада“ кажацца „грумада“—пад уплывам вусьняных м. п.—Рэд.

**) Завітая ад дзеяслова завіць, што азначае закруціць, закончыць.

**вялікая, вальная, прысяжная** (калі капляне прысягай павінны былі сьцьвердзіць, што між імі няма вінаватага). Не заўсёды аднак капа патрапляла закончыць справу ў тры зборкі. Калі справа была вельмі труднай і складанай, капа склікалася ня раз, але чатыры і пяць разоў. **Галоўнай або завітай** капой і ў гэтым прыпадку была тая, што рабіла канчальны прысуд. Як глыбака народ шанаваў копны суд і верыў у яго справядлівасьць сьведчыць той факт, што капа звалася **сьвятой** (у значэньню яе справядлівасьці).

Копныя зборкі адбываліся пад адкрытым небам на заўсёды ўстаноўленых і точна азначаных мясцох, каторыя зваліся **капавішчамі або копішчамі**. Дзейнасьць кожнага капавішча або копішча прасьцягалася на ўсе чатыры стараны на 14 вёрстаў. Гэткім парадкам, уся Беларусь была падзелена на копныя раёны з заўсёднымі межамі; у сярэдзіне кожнага копнага раёну было капавішча *). Зборка капы не на капавішчы, паводле звычаю, лічылася бясправўнай і ня толькі выклікала протэст з боку абвінавачанага, але магла навет пацягнуць за сабой няважнасьць гэтакім спосабам зробленага прысуду. Адступленьні ад гэтага звычаю дапушчаліся толькі тады, калі абставіны справы вымагалі прысутнасьці капы на месцу праступку дзеля лепшага й барджджэйшага выяўленьня яго сьлядоў. Пераважна адступленьне гэтае ўжывалася пры гарачай капе. каторая з прыроды свайго заданьня павінна была зьбірацца на месцу праступку дзеля лепшага выяўленьня праступніка.

Права склікаць капу належыла пакрыўджанаму, каторы сам асабіста або праз сваіх людзёў наказаваў аб часе й месцу зборкі капы ўсім сёлам, аколіцам і панскім дваром, што ўходзілі ў склад дадзенага копнага раёну. У прыпадках асаблівых, калі патрэбна была магчыма поўная зборка капы дзеля разьвязаньня якоесь важнае справы, наказ адбываўся пісьменна адпаведнымі лістамі, каторыя рассылалі возныя, або адчытавалі іх на кірмашох, перад царквой або касьцёлам па набожнасьці. У некаторых прыпадках права склікаць капу належыла афіцыяльнай судовай асобе, напрыклад вознаму. Здаралася гэта асабліва тады, калі ў дадзеным копным раёне беспасярэдне пакрыўджанага праступкам ня было, як прыкладам пры забіўстве бесплеменнага або праежджага чалавека. Здараліся аднак пры-

*) XVIII том актаў Віл. Арх. Комісіі мае мноства точна апісаных капавішчаў. Там шмат хто можа знайсьці знаёмыя сабе назовы й мясцовасьці. Дзеля этнографіі й досьледаў над копнымі судамі важна было-б запісаваць назовы мясцовасьцяў, паходзячыя ад слоў „капа", „капавішча" й „копішча"

падкі, калі капа склікалася сама сабой, бяз нічыйго клічу, і складалася з самых зацікаўленых у справе асобаў. Гэтак у 1611 г. слонімскія мяшчане, паразумеўшыся між сабой, сабраліся на капу дзеля суду над слонімскім-жа мешчанінам Карпам Нікановічам, каторага яны лічылі за небясьпечнага злодзея *). У 1649 г. йзноў-жа мяшчане й сяляне м. Высоцка, Пінскага пав., самі з сябе злажылі капу, каб публічна заявіць аб уціску, жорсткасьці, гвалтах і разбойствах лендара двара нейкага Рамана Стралецкага **). Дзейнасьць палягаючая на скліканьні капы мела свае адумысловыя назовы, як прыкладам: **зьбіраць капу, падымаць на капу, злажыць, або зьбіваць капу, гнаць капу** і г. д.

Права зьбірацца на капу і судзіць на ёй прынцыпова мелі ўсе жыхары дадзенага копнага раёну, прыпісаныя да яго капавішча. Гэткім парадкам на капу выходзілі: сёлы гаспадарскія й панскія, праваслаўнага й рымска-каталіцкага духавенства; гаспадарскія й панскія двары й мястэчкі, мяшчане ***), гаспадарскія асочнікі, бортнікі, шляхта, баяры й сяляне. Як бачым, з гледзішча соцыяльнага складу судзьдзяў, копныя суды былі запраўды **ўсестановымі**, але дзякуючы таму, што ў местах ладне пераважаў элемэнт мяшчанскі, а на сяле сялянскі,—копныя суды былі судамі тыпова **мяшчанскімі** або **сялянскімі**.

Хаця права ўчасьця ў капе меў кожны жыхар дадзенага копнага раёну, аднак ня трэба думаць, быццам усе сяляне з кожнага сяла выходзілі на кожную скліканую капу. Гэта рабіла-б па 1-шае копныя зборкі вельмі мнагалюднымі, на якіх было-б ня раз некалькі сотняў, а навет і тысяча асобаў, а па 2-е руйнавала-б сялянскую гаспадарку, адрываючы сялян ад працы, бо ў кожным раёне, а асабліва ў летнюю пару, копныя зборкі былі вельмі часта. Дзеля гэтага з даўных часоў вытварыўся звычай, што на капу выходзілі толькі выбарныя з кожнага селішча ў раёне, каторыя добра ведалі ўсіх сваіх жыхароў і маглі адказаваць перад капой за ўсё сяло або двор. Звычайна, як гэта відаць з актаў XVIII тому, на капу выходзіла па аднэй, дзьве або тры асобы з кожнага сяла або двору. З гэтае прычыны, а гэтак сама дзякуючы таму, што лікс елішчаў, каторыя ўходзілі ў склад копных раёнаў сярэдне не перавышаў 15—16 — копныя

*) XVIII том актаў Віл. Арх Ком. Nr. 205.
**) " " " " " " Nr. 324.
***) Ня ўсе аднак мяшчане зьбіраліся на капу. У тых местах, дзе было ўведзена майдэборскае права, мяшчане, падлягаючыя яму, часта адмаўляліся выходзіць на капу. Затое мяшчане іншых юрысдыкцыяў, як прыкладам ваяводзкія, клябанскія, манастырскія на капу выходзілі.

зборкі ня былі мнагалюдныя. Пераважна колькасьць копнікаў не перавышала 60 і толькі выняткава ў дакумэнце Nr 91 XVIII тому маем капу, што складалася з 120 асобаў. Агулам-жа лічба копных судзьдзяў залежыла ад велічыні копнага раёну і важнасьці справы, падлягаючай разгляду. Найменшая лічбова была заўсёды першая або **гарачая** капа, што складалася толькі з выбарных найбліжшых да пакрыўджанага селішчаў *), найбольшай была трэйцяя або завітая капа, на якой выносіўся прысуд. Сабраныя на капу зваліся каплянамі, **куплянамі, копнікамі** або **мужамі**.

Дзеля таго, што склікаць капу мог кожны пакрыўджаны праступкам а гэтак сама дзякуючы таму, што капа найхутчэй і найвярней адкрывала пераважна няведамага праступніка і прымушала яго публічна прызнацца ня толькі ў інкрымінаваным яму ў дадзеную часіну праступку, але й у шмат якіх іншых раней споўненых—круг асобаў, каторыя жадалі скарыстацца з гэтага публічнага народнага суду, быў у кожным раёне вельмі вялікі. Акты XVIII т. паказуюць, што да копнага суду зварочаваліся: 1) **сяляве** ад свайго собскага імені, 2) **розныя офіцыяльныя й служачыя асобы**, як прыкладам слонімскі земскі пісар, менскі гарадзкі пісар, белавескі лясьнічы, менскі стараста, слонімскі гродзкі судзьдзя, рэчыцкі маршалка, берасьцейская ваяводзіна, капітан, адміністратар белавескае пушчы, горадзенскі лоўчы, пінскі земскі судзьдзя, і г. д. 3) **сьвяшчэньнікі й манастыры і іншыя вышэйшыя духоўныя асобы**, прыкладам берасьцейскі біскуп, купяціцкі манастыр, езуіты, і г. д. 4) **мяшчане, баяры й жыды**, 5) **ураднікі панскія**, і 6) **паны**.

Паном, зразумела, трэба было бараніць собскія інтарэсы й правы, як і інтарэсы падданых сялян і залежнае ад іх дробнае шляхты. Апрача гэтага, розныя крыўды між панамі ахвотна паддаваліся імі копнаму суду, каторы, як было сказана вышэй, кожны праступак выкрываў борзда й пэўна. Аднак, калі склад асобаў жадаючых паддаць свае крыўды копнаму суду, быў вельмі разнаякі, дык ужо склад асобаў, каторыя адказавалі перад копным судам як абвінавачаныя ня быў гэтакі разнаякі. Галоўна перад капой адказавалі **сяляне і паны**. Аднак у вактах XVIII тому мы знаходзім дадзеныя, што перад капой адказавалі **баяры, мяшчане, жыды** і навет **віленскі біскуп князь Паўла**

---

*) Гарачая капа гналася па сьлядох праступніка і мела на мэце затрымаць яго. З прыроды гэтага свайго заданьня яна не магла быць вельмі вялікай, бо спраўнасьць яе тады была-б малая.

(каля 1552 г.). Можна назіраць наступное зьявішча: кожны пакрыўджаны ахвотна шукаў з помаччу капы „шкодніка", што зрабіў яму „зладзейскім спосабам" крыўду, але кожны паводле магчымасьці стараўся ўцячы ад адказнасьці перад копным судом. Псыхолёгічна зьявішча гэтае ёсьць зусім зразумелым. Кожны праступнік, проці каторага былі сабраны навет невялічкія довады, рызыкаваў, стоячы перад копным судом як абвінавачаны, тым, што віна яго будзе шмат лягчэй і барждзжэй даведзена, чымся ў якім колечы іншым судзе. Адцягаваць справу, прадстаўляць розныя ілжывыя довады нявіннасьці перад капой, каторая зараз-жа на месцу магла спраўдзіць кожнае слова абвінавачанага, было рэччу немагчымай, або прынамся з гары асуджанай на няўдачу. Толькі асоба запраўды нявінная магла лічыць, што капа хутчэй звольніць яе ад віны й кары, чымся іншы суд. З актаў XVIII тому мы бачым як з ходам стагодзьдзяў штораз часьцей ня толькі шляхта, але й сяляне-праступнікі стараліся выламацца з пад адказнасьці перад капой. Шляхта, здабываючы сабе штораз вялікшыя прывілеі, ужо прынцыпова не хацела адказаваць перад народным сялянскім судом, якім засталася капа на працягу ўсіх стагодзьдзяў свайго быцьця. Сяляне, лучаючы ў што раз большую залежнасьць ад паноў, у прыпадку калі ім трэ' было адказаваць перад капой за зробленыя праступкі, ахвотна ўцякалі ад свайго народнага суду і аддаваліся пад апеку сваіх паноў, што дзеялася асабліва часта тады, калі й паны былі зацікаўленыя ў тым, каб праступкі іх падданых засталіся нявыкрытымі й непакаранымі. Мноства актаў XVIII т. сьведчаць аб тым, як цяжка ня раз копным судом прыходзілася спаўняць свае заданьні, дзякуючы розным перашкодам, неспаўненьню пастановаў капы з боку тых паноў і сялян, каторыя не хацелі адказаваць перад ёй. Слабым мамэнтам у арганізацыі капы, што рабіў магчымымі падобныя зьявішчы, была адсутнасьць санкцыі дзеля пастановаў капы, каторыя дзякуючы гэтаму часта не спаўняліся. Праўда, капа мела адзіны й наймацнейшы хундамэнт, на якім можа будавацца судовая арганізацыя наагул, гэта вялікі моральны аўторытэт у народзе, аднак, дзякуючы штораз глыбейшым зьменам у структуры грамадзянства, паўставалыя антагонізмы памалу зьмяншалі гэты аўтарытэт. Пераходзячы да компэтэнцыі копных судоў трэба зацеміць, што аб гэтым акты XVIII тому прадстаўляюць найвялікшую цікаўнасьць. Сьцьвярджаюць яны, што кампэтэнцыя капы была запраўды беспрыраўнаньня шырэйшая за тую, аб якой кажуць пісаныя памяткі беларускага права — Літоўскія Статуты

з 1529, 1566 і 1588 г. г. Статут з 1529 г. ўспамінае аб капе ў двух прыпадках: у разьдз. 8, арт. 8 аб пагранічных спрэчках і ў разьдз. 12, арт. 2, калі кажа аб вызаве на капу тых, чый статак будзе забраны на „іспашы„ (патрава). Статут 1566 г. ўспамінае аб капе ўжо ў трох прыкладах: у разьдз. 11, арт. 31 — аб забіўстве праежджага або бесπляменнага чалавека (гэтага артыкулу ў I Статуце няма), у разьдз. 13, арт. 2 аб скліканьню капы на „іспаш“ і ў разьдз. 14, арт. 6 аб зборцы капы дзеля вядзеньня сьледу пры кражах. Урэшце Статут 1588 г. ўспамінае аб капе йзноў толькі ў двух прыпадках: у разьдз. 11, арт. 26 аб забіўстве праежджага або бесπляменнага чалавека і ў разьдз. 14, арт. 9 аб скліканьню капы дзеля вядзеньня сьледу пры кражах. Абодвы гэтыя артыкулы трэйцяга Статуту ладне папоўнены ў прыраўнаньню з адпаведнымі артыкуламі другога Статуту, а апрача гэтага арт. 9, разьдз 14 зьмяшчае вельмі важную пастанову, паіменна загад падкаморым завесьці копы і азначыць каповішчы тамака, дзе іх дагэнуль ня было. З прыраўнаньня трох Статутаў вынікае, што кожны з іх інакш азначаў компэтэнцыю копных судоў. Трэйці Статут быццам абмежуе компэтэнцыю капы ў прыраўнаньню з другім, выкідаючы разьдзел аб іспашы, але з другога боку ён ня толькі ня зьнішчае гэтае ўстановы звычаёвага права, але наадварот пашырае, загадуючы падкаморым уводзіць копы там, дзе яны дагэнуль не існавалі. Калі-ж мы зьвернемся да актаў XVIII тому, абачым, што копныя суды навет па выданьню трэйцяга Статуту разглядалі наступныя справы: 1) **рознага роду кражы**, як коні, статку, рознае маемасьці, рознага збожжа, у цэрквах з узломам іх, у млыне, катлоў на броварах, схаванае ў зямлі маемасьці, 2) **забіўствы**, 3) **патрава** (іспаш), 4) **чараўніцтва**, 5) **падраньне пчолаў**, 6) **падпалы**, 7) **разбойства**, 8) **пабіцьцё**, 9) **пагранічныя спрэчкі** і г. д. Словам, запраўды компэтэнцыя копных судоў была ў справах каральных шмат шырэйшай, чымся тая, аб якой кажа апошні Статут з 1588 г. Толераваньне пісаным беларускім правам гэтакае шырокае компэтэнцыі капы аб'ясьняецца тым, што ўсе тры Статуты зусім ня мелі наўвеце абмежыць компэтэнцыі капы, а толькі ўрэгуляваць дзейнасьць у тых каральных справах, якія вельмі часта здараліся, або ў тых, у выкрыцьці каторых часова ня было беспасярэдне зацікаўленае асобы ў дадзеным копным раёне, як прыкладам у прыпадку забіўства бесπляменнага чалавека.

(Канчатак будзе).

# Адказ маім „крытыкам“.

У кніжцы 2-й „Нёмна“, у зацемцы „Дзеля абароны беларускага языка“ я адказаў на нападкі на мяне п. Антона Луцкевіча, што выступіў у „Беларускім Зване“ пад ініцыяламі А. Н. свайго яўнага псэўдоніма.

Нягледзячы на тое, што менаваныя нападкі былі яўна несправядлівыя й тэндэнцыйныя, я ўсё-ж такі адказаў на іх сур'ёзна, каб *усім чыста* паказаць усю іх бязгрунтоўнасьць. У сваім адказе я пункт за пунктам зьбіў усе зробленыя мне А. Луцкевічам закіды. На гэта п. А. Луцкевіч у сваёй новай зацемцы „Крыху аб філёлёгіі і „філёлёгіі“ („Беларускі Звон“ № 9) нічога ня мог сказаць, абмежыўшыся адно заяваю, што ён быццам „аб граматыцы Тарашкевіча зусім і не ўспамінаў“. Запярэчыўшы таму, што ён паклікаўся на граматыку Тарашкевічаву, п. А. Луцкевіч тым самым прызнаўся ў несправядлівасьці сваіх закідаў у першай сваёй зацемцы аб „маёй“ мове, бо кожнаму ведама, што з паміж „беларускіх граматык“ (словы Луцкевічавы) у Зах. Беларусі вучацца адно граматыку Б. Тарашкевіча.

Ня могучы нічога адказаць, п. А. Л. у сваёй менаванай зацемцы ў № 9 „Б. Зв.“ перайшоў да разважаньня аб „філёлёгіі“. Тут знаходзім, што „гр. Станкевіч як быццам задаўся мэтай *вярнуць нашу сучасную мову назад — за трыста гадоў*“ і што быццам той-жа Станкевіч „папросту абвяшчае „няправільным“ усё тое, што народ беларускі за некалькі стагодзьдзяў стварыў *новага*“. Чыстая няпраўда! Прашу паказаць, калі, дзе й з чым я гэтак рабіў. Апрача таго п. А. Л. прыпісуе мне, быццам я думаю, што „філёлёгі (перад усім ён сам!) прызваны тварыць законы мовы, а крыніца іх—псыхіка народная—гэта глупства!“ Няма ведама, чаго ў прыведзеных заявах п. Луцкевіча балей—абсалютнага няведаньня гісторыі беларускага языка ці злое волі? Відавочна даволі ё аднаго й другога. Адказаваць на падобныя цьверджаньні немагчыма.

Прыведзены абразок быў-бы ня поўны, калі-б п. Луцкевіч ня ўжыў яшчэ ў сваёй зацемцы ўжо не „філёлёгічнае“ але й звычайнае няпраўды. Дык жэ ён кажа, што я карыстаюся „з досьледаў акадэміка Карскага і інш... (часта крыху перакруціўшы...)“. Карыстацца, ведама, карыстаюся, але заўсёды гэта сумленна адзначаю. Аднак карыстацца „часта крыху перакруціўшы...“—гэта значыць красьці. Пане Луцкевіч, пакажэце, дзе штось падобнае я зрабіў? У пра-

ціўным прыпадку Вы—хіба ўжо не ўпяршыню — выставілі сабе вельмі нягоднае моральнае пасьведчаньне.

---

На помач А. Л. прыйшоў „общерусскій человѣкъ“, каторы ў вартыкуле „Скарастрэльная філёлёгія“ ў трох нумарох „Беларускага Звана“ (№№ 10, 11 й 12) шчыра стараецца „дыскваліфікаваць“ мяне. Другі мой „крытык“ выступае яшчэ балей за першага схаваўшыся, бо пад няведамым псэўдонімам „Філёлёг“. Ён выступіў з цэлым публіцыстычным апаратам.

На пачатку п. „Філёлёг“ наіўна (?) зацемлюе, што я на зачэпку Луцкевічаву мусіў давесьці „*сваю бяспрэчную вартасьць мовавед, апраўдаць свае правы і прэтэнсіі на ролю рэформатара амаль не дыктатара ў галіне беларускае мовы*“ („Б. Зв.“. № 10). Наўперад мушу адцеміць, што ані я хачу, ані магу быць дыктатарам у беларускай літаратурнай мове, не магу так-жа „дэкрэтаваць“ чаго колечы—усё гэта ў вуснах п. „Філёлёга“ проста разьмінаецца з праўдаю. Наадварот, пакуль ня будзе папраўлены дагэтуль балей меней прыняты правапіс і граматыка Тарашкевічава, сам праводжу іх у сярэдняй школе і, спадзяюся, што раблю гэта не горэй за п. Луцкевіча, каторы, як паказуюць шмат якія факты, слаба ўмее бароненую ім граматыку Тарашкевічаву *). А што датыча давядзеньня вартасьці „моваведа“, дык гэта так-жа я ня думаў і ня зьбіраюся рабіць у кароценькім адказе маім „бел.-звонаўскім крытыкам“. А каб і хацеў гэта зрабіць, дык не патрапіў-бы ў „Нёмне“, хоць маім „крытыкам“ дзеля выступленьня проці мяне напэўна стане „Белар. Звана“. Ды справа не ў філёлёгу наагул, а тым балей не ўва мне, а ў філёлёгіі, у беларускім языццэ, каторы трэба об'ектыўна й навукова пазнаць і паказаць усяму сьвету, наўперад сьвету беларускаму. Крышачку гэтага можна было зрабіць у „Роднай Мове“, замерлай не без стараньня „прыяцеляў“ з „Белар. Звана“, балей будзе зроблена, калі будуць надрукаваны мае навуковыя працы, і я быў-бы шчасьлівы, калі-б усё зрабіў у працягу свайго жыцьця.

Агульны тон і этычная роўня артыкулу „філёлёгавага“ згаджаюцца з тонам і этыкаю зацемкаў Луцкевічавых і дапаўняюць іх. Толькі любоў роднае мовы і жаданьне ўсьцерагчы яе ад усялякага шкоджаньня перамагаюць у мяне гід-

---

*) Да прыкладаў, прыведзеных мною ў Nr. 2 „Нёмна“, дадам яшчэ наступныя: Луцкевіч ужывае ў лічбах дц замест цц (брашура „За дваццаць пяць гадоў“), не дадае в да пачатнага а па прыймені у, як гэта бачым у перакладзеным ім Новым Зэстамэнце, ды ўжывае ў тым-жа перакладзе хвормы займёнаў на—і: ў наз. скл. мн. л. маі, тваі, сваі.

лівасьць і прынукаюць адказаць маім вышменаваным „крытыкам“.

Да спосабу полемікі п. „Філёлёга“ характэрна прыпісаваньне мне таго, чаго я зусім не казаў. Гэтак у сваім адказе ў кніжцы 2-й „Нёмна“ на бал. 78 я зацеміў, што мой артыкул у „Роднай Мове“, бал. 18 ё адзінай „граматыкай“ аб катэгорыі чужых слоў на—*іа*,—*іо*, а п. „Філёлёг“ менаванае маё выражэньне адносіць да ўсяе беларускае мовы (№ 10 „Белар. Звана“ і іншыя месцы ягонага артыкулу), фалшуючы гэтым мае словы.

Разгледжу на пачатку нязгоды п. „Філёлёга“ за мной у пытаньнях конкрэтных. Агульна наўперад тут трэба зацеміць, што п. „Філёлёг“ ані не задзержуецца на тых асаблівасьцях беларускага языка, каторыя былі разгледжаныя ў васобных артыкулах у „Роднай Мове“, але „крытыкуе“ два мае пагляды, выказаныя ў кн. 2-й „Нёмна“, дзе, як у вадказе, ведама, немагчыма было вычарпаць усе чыста дробязі закраненых хвормаў.

Конкрэтныя нязгоды п. „Філёлёга“ за мной датычаць дзьвюх зьяваў — хвормы прыраўнальнае ступені і слова „цырамоня“.

Што да першае зьявы, дык „Філёлёг“ стараецца спачатку папра́віць мяне, пішучы, што „Ня зусім *згаджаецца* тутака з праўдай насамперш паказ на акад. Карскага, які прыводзіць з старых памяткаў *ня дзьве, але тры формы* прыраўн. ст. Якраз гэная *трэцяя форма — скарочаная форма на —ей*—і *буры́ць* усю... будову“. Тут-жа „крытык“ робіць гэткі вывад: „Ці-ж запраўды можа існаваць у якой небудзь мове такі (фонэтычны) закон, які-б *дазваляючы* ўтварэньне, прыкладам, формы „*бліжэй*“, „*вышэй*“ (старая форма прыр. ст. прыкметаў), *забараняў-бы* побач з тым катэгорычна формы „*бліжэйшы*“, „*вышэйшы*“?!“ („Бел. Зв.“ № 10).

Наўперад зацемлю, што аб *фонэтычным* законе тут можа казаць адно такі „філёлёг“, што стаіць ад філёлёгіі ў воддалі 10-ёх міляў.

Хвормы на—*ей* (бліжэй і г. д.) з *гісторычнага* гледзішча ў часе, з каторага прыводзе прыклады Яўхім Карскі (XV — XVII в.), і *цяпер* ёсьць прыр. ст. прыкметаў, але ўжо ў XV — XVII в. былі прыслоўямі, дзеля таго я іх і ня прывёў, кажучы ў популярным адказе аб прыр. ст. прыкметаў. Хворма на — *ей* (паўней) паўстала з хвормы на— *еје* (*рaйніеје* — наз. склон складзенае прыр. ст. ніяк. роду); хвормы прыр. ст. на — *шы* і—*ейшы* (бліжшы, паўнейшы) ё складз. хвормы жаноцкія прыр. ст. ў наз. склоне адз. ліку.

Калі й дапусьціць аналёгічны (але не фонэтычны) ўплыў прыслоўяў на—*ей* (ляпей) на старыя хвормы беларускія прыр. ст. на—*шы* (лепшы, вышшы), дык гэты ўплыў ня быў ані агульна-беларускім, ані вялікім, бо навет цяперака ў большасьці беларускае народнае мовы маем прыр. ст. на—*шы*, калі ў прыкмеце няма суфіксу—*к*—(*ък*), або трох ці балей сугукаў перад канчаткам.

„Паводле „дэкрэту" д-ра Станкевіча — кажа далей пан „Філёлёг" у № 10 „Белар. Зв."—прыкмета *злы* павінна мець форм. прыр. „*зол—шы*", але ніколі ня „*зьлейшы*"...

Прыр. ст. да „злы" была раней „горшы" (ад „горкі"). Калі-ж слова „злы" прыняло значэньне „сярдзіты", а значэньне слова „злы" замяніла слова „ліхі" і—пазьней—„благі", дык „горшы" стала адносіцца да іх, а ад „злы" ўтворана хворма прыр. ст. аналёгічная — зьлейшы. Трэба аднак зацеміць, што слова „злы" ў цяперашнім сваім значэньню ня ё агульна-беларускім, замест яго ў вадных мясцовасьцях кажацца „сярдзіты", у другіх - „ліхі". Ня пішучы граматыкі ані артыкулу аб ступенях прыраўнаньня, я не патрабаваў успамінаць аб ім.

Далей мой „крытык" кажа: „Паводле „правіла" д-ра Станкевіча — прыкметы: *цяжкі, шпаркі, лёгкі, мяккі, лоўкі, сьціслы, жоўты* і т. д. павінны мець у прыр. ст. формы: *цяж(к)шы, шпар(к)шы, лёг(к)шы, мяк(к)шы, лоў(к)шы, сьцісяшы, жоўтшы* і т. д." і яшчэ „Прыкметы: чырвоны, зялёны, *галубы*, харошы, гарачы, сьвяты, скупы, *глупы* (у вапошнім і прадапошнім прыпадку падчыркненьне маё — *прып. аўт.*), добры, скоры і д. т. п. ізноў-жа *павінны* былі-б, спаўняючы „дэкрэт" нашага „рэформатара", тварыць формы: чырвоншы, зялёншы, галубшы, харош-шы, гарачшы, сьвят-шы, скуп-шы, глуп-шы, добр-шы, скор-шы, і т. д.".

Словаў „лоўкі (рас. ловкій—*прып. аўт.*), сьціслы, галубы, глупы" ў беларускім языццэ нямашака, дык ад іх ня можа быць у ім і прыр. ступені. Ад „добры" ё прыр. ст. „лепшы". Усе іншыя прыведзеныя п. „Філёлёгам" прыкметы маюць - у старой мове звычайна, у цяперашняй у большасьці мясцовасьцяў — прыр. ступень на — *шы* (цяжшы і г. д.). Гэтыя прыр. ст. на — *шы* творацца траха заўсёды ад *асноў* прыкметаў, маючых суфікс *к* (ък), знач. *к* адпадае; дык зусім без патрэбы п. „Філёлёг" піша „цяж(к)шы" і г. д. (з *к* ў дужках). Прыклады з Я. Карскага II, 2, 56 і 57 (із старое і цяперашняе нар. мовы): богатъшему, готовъшый, горятше, солодше, гладшие, блѣдшій, богатшій, ведомшій, горкшій, крогшій, крухшій, крѣпшій, шыршы, дальшы. Некаторыя прыклады з „Аль-Кітабу" XVI в.: sytšaje 26a1, staršyj 42w17,

vyššyje 122a1, cnotliŭšyje 66b4, ščaśliŭšaje 135b3, najmilšym 52b5, nacherošyj (чытай: нахарошшы) 52a15 *). Кніга Касьяна Рымляніна Ераміта XVII в. (з арт. С. Некрашэвіча ў „Прадцы Клясы Філёлёгіі" т. I, бал. 105): должщую, тяжше, досконалшы і славнейшы, лакомшы, бридливъшы, богатших; у найвышшай ст.: наядавітшим, надалшая, наласкавшими словы, навышъшы. I толькі адноўчы—намудрѣйши.

У „Аль-Кітабе" хворма на—*ейшы* ё ў прыр. ст. толькі ад прыкметаў, маючых перад канчаткам *н* (суфікс-*ьн*-) з папярэднім сугукам або нескладовымі *ў*, *й*. У некаторых іншых старых памятках хворма на — *ейшы* сустракаецца ў *рэдкіх адзіночных прыпадках* і ад прыкметаў, нямаючых суфіксу—*н*, як прыведзенае „мудрэйшы".

Як бачым, закіды „Філёлёгавы ня могуць зьбіць таго, што ў літаратурнай мове павінны мець хворму прыр. ст. на — *ейшы* тыя прыкметы, у каторых перад канчаткам ё *н* з папярэднім сугукам альбо з *ў*, *й* (вольны — вальнейшы, буйны—буйнейшы), ды маючыя перад канчаткам тры ці балей сугукі (шустры—шустрэйшы, войстры—вайстрэйшы), а ўсе іншыя маюць прыраўн. ст. на — *шы* (ніжшы, дужшы).

„Зьлейшы" будзе водхінам.

Што да другое зьявы, дык п. „Філёлёг", заяўляючы аб немагчымасьці ўжываньня „цырамоня" (з *ы*), дадае „ці й „тылеграма"?". На гэта зацемлю наступное. На месцу-*ър*- (з нескл. *ъ* *і скл.* *р* беларуская мова мае—*ір*-,-*ыр*-(чырвоны) або -*ер*-,-*эр*- (сьмерць), а паводле сваіх і перанятыя чужыя словы могуць мець-ір-,-ыр-або-ер-,-эр. Дзеля таго ня было-б вельмі дзіўна, калі-б. хто напісаў „цэрамоня" (вымаўлялася-б тады „царамоня"). Ня я крытыкаваў адну з дзьвюх магчымых хвормаў, але мяне „крытыкавалі", зусім ня могучы давесьці, што ня можна ўжываць „цырамоня" (з *ы*). Звычайна гэтае слова Беларус вымаўляе з-*ы*-, хіба вельмі рэдка з-*а*- і ніколі з-*э*-па *ц*.

Але зусім немагчыма ўжываць „*ты*леграма" і вось чаму. *іл*-адпавядала-б прасл.-*ьл*-(з *ь* нескл.), але перад *ь* ці *і* мусіў-бы быць сугук гісторычна — мяккі, чаго ў дадзеным прыпадку нямашака. Вось дзеля чаго й няма такіх „анархістых", якія пропанавалі-б ужываць „тылеграма". Неяк дзіўна, што п. „Філёлёг" (!) у гэтым не разьбіраецца.

## Прынцыпы „бел.-звонаўскага філёлёга".

Пярэйдзем цяперака да языковых прынцыпаў „бел.-звонаўскага філёлёга". Цэлы разьдзел II і часьць III арты-

---

*) Упрыкладах в „Аль-Кітабу" цьвярдзіня некаторых сугукаў тут паказана пры помачы лац. у.

кулу нашага „крытыка“ („Бел. Зв.“ № 11 й 12) заняты высьненьнем прынцыпу вымовы чужых словаў. Гэтак на пачатку II разьдз. знаходзім, што „Ня менш недарэчнымі ды бясьсільнымі зьяўляюцца філёлёгічныя „дэкрэты“ нашага „дыктатара“ і ў галіне *фонэтычнай асыміляцыі* (падч. маё —*прып. аўт.*) ў беларускай мове чужаземных слоў“.

У „Роднай Мове“, бал. 17–26 я напісаў артыкул „Да вымовы й правапісу чужых словаў“ і тамака, як і наагул нідзе, не кажу аб асыміляцы чужых словаў. Што пад гэтай „фонэтычнай асыміляцыяй“ разумее наш „крытык“, хіба толькі ведама „высокай яго інтэлігенцыі“. Ясьней ня робіцца, калі на колькі радкоў ніжэй знаходзім, што чужаземныя словы „a priori *нефонэтычныя* ў нашай мове“. Тут з гэтай „высокай інтэлігенцыяй“ ці мо' філёлёгічнасьцяй п. „філёлёга“ выходзе зусім нягодна, бо нефонэтычныя значыць нягуковыя.

Ведамыя зьмены чужых словаў у беларускай мове наш „інтэлігентны крытык“ заве „*няграматнай, вульгарнай, барскай перваробкай*“ ...„шляхам іх скалечаньня“ (Бел. Зв. № 11) і навет „шляхам поўнага скалечаньня“ іх народам. Аднак наш „крытык“, мусіць, добра адносіцца да народу, бо меніваны дагэтулешні, скалечаны здабытак народны мае быць усё-ж такі інтэлігенцай прыняты. Нягледзячы аднак на такую ласку, „бел.-звонаўскі філёлёг“ ня хоча прызнаць народнае хвормы слова „Юля“, называючы яе зьмяншальнай, „*дзіцячай*“, падобнай да „Юлька, Юлінька“ („Бел. Зв.“ № 12). Тут ізноў бачым, што „высака-інтэлігентны філёлёг“ ня знае элемэнтарнае граматыкі. Словы творацца суфіксамі або прыстаўкамі. Гэтак суфікс знаходзім у слове „Юль-к-а“ і інш. Але якім-жа суфіксам утворана „Юля“ ад „Юлія“? Тут адно канчатак—*ia* (Julia) перайшоў фонэтычна ў — а (Jula).

Калі ў народзе ўтварылася інтэлігенца, дык адгэнуль—паводле нашага „крытыка“—дальшае прыймо чужых словаў мае адбывацца „спосабам культурным і граматным“ (№ 11 „Бел. Зв.“). Сказаўшы гэта, наш „крытык“ усё-ж такі ў сваёй публіцыстычнай асьцярожнасьці дадае, што „народныя гушчы“ маюць нейкія свае правы й на новаперайманыя чужыя словы, толькі гэныя правы абмежуюцца „ведамымі і вельмі ўладнымі нормамі так сказаць „міжнароднага права“, нарушаць якія цяпер ужо ня можна“ (№ 11 „Б. Зв.)“. „Крытык“ аднак ня прывёў гэтых „нормаў так сказаць „міжнароднага права“, бо іх нямашака.

Запраўды справа з перайманымі чужымі словамі прадстаўляецца зусім начай. Уласьцівасьці чужога слова сустракаюцца з духам беларускага языка, ад чаго часта настае

тая ці іншая зьмена хвормы чужога слова. Гэткая зьмена, знаходжаная ў чужых словах беларускае мовы народнае, далёка не заўсёды прыбліжае гукі чужога слова да беларускіх у тым-жа палажэньню. Гэтак ненацісьненыя *о*, *э* чужых словаў пераходзяць у *а* і гэтым робяцца аднолькавымі з тымі-ж ненацісьненымі самагукамі беларускімі, але паўмяккія *з*, *с*, *д*, *т* перад *і* чужых словаў цьвярдзеюць, калі тым часам у сваіх словах беларуская мова перад *і* мае *зь*, *сь*, *дзь*, *ць* (ź, ś, dź, ć). Група сугук+j+самагук з сугук+ьj + самагук сваіх словаў дала ў беларускім языццэ падвойны сугук + самагук (вясельле), але тая-ж група чыжых словаў дае ў беларускай мове зьмякчоны сугук+самагук (Аміля з Amilja з Aemilia).

У языццэ адбіваецца псыхіка кожнага народу. Дух кожнае мовы, яе фонэтыка й морфолёгія вытвараюцца вылучна народам, дзякуючы ўласьцівай яму псыхіццы. Інтэлігенца з нарэччаў і гутаркаў народнае мовы стварае адно, аднолькавае для ўсіх інтэлігентаў, літаратурнае нарэчча, поэты й пісьменьнікі (як і тварцы народнае поэзі) паляпшаюць стыль, ствараюць хараство слова, але ані не мяняюць яе фонэтычнага й хвармальнага развою. Дзеля таго фонэтыка й морфолёгія літаратурнае мовы на толькі разьвіваецца, на колькі яна ня ўтраціла сувязі з моваю народнай. Дзеля таго-ж старагрэцкая й лацінская мовы замерлі, а чысты языковы твор інтэлігенцы, эспэранто — мертвароджаны.

Знаючыя добра чужую мову, гамонячы пачужому, патрапляюць правільна вымаўляць гукі чужое мовы, але ніхто, хоць-бы такі ступроцэнтны інтэлігент, як наш „крытык", у сваёй мове не вымаўляе пачужому гукаў чужых словаў. Які Беларус у сваёй мове вымаўляе паўмяккія *д*, *т*, *з*, *с* перад *і* чужых словаў, сярэдняе *л* і г. д.? Вымаўлючага гэтак трэ' было-б адразу здаць у музэй на памятку патомкам.

Дзеля таго што інтэлігенца не стварае жаднае, апрычонае ад народнае мовы, вымовы й развою гукаў ды ў чужых словах роднае мовы нормальна ня можа вымавіць гукаў пачужому, дык *вымова* чужых словаў, як перанятых народам, так і інтэлігенцай можа быць толькі адна — такая, якую мае народ.

Сказанае адносіцца й да вымовы ў беларускім языццэ чужых словаў на—іо,—іа: ня толькі будзем мець опэраца, Наталя, Аксеня, Алімпа, Яўхіма, але й—позыца, Італя, Бразыля, Гішпаня, акадэма *) і г. д.

---

*) „Філёлёг" у Nr. 12 „Бел. Зв." кажа: „Загадваючы ўсім пісаць

Аднолькавая вымова словаў, перанятых народам і інтэлігенцай ё й у іншых мовах, прыкл. польскай (operacja, dedukcja), чэскай (operace, dedukce) і інш., а такжа й неславянскіх, прыкл. нямецкай, францускай, англіцкай (operation, deduktion, deduction). Праўда, расейская мова да некаторае меры знае гэтую розьніцу (Наталья, але Італія, Юлія), але-ж гэта й ё няпрыродным у ёй зьявішчам, ё заганаю. Ці не расейскі бок „общерусской“ натуры „Філёлёга“ праявіўся ў дамаганьню, каб гэтую загану перанесьці з расейскае мовы ў беларускую?

## „Общеросу“ не падабаюцца беларускія імёны.

Напасьледак, мой „крытык“ бароне ад мяне „поўныя хрысьціянскія імёны“. Можна падумаць, што ё якаясь „хрысьцянская“ мова. Славянскія апостолы ў IX в. гэтак ня думалі й пераймалі грэцкія імёны згодна з духам стара-баўгарскае мовы. Можна быць пэўным, што да так любых вуху п. „крытыка“ „Іоаннов, Васіліев, Афонасіев, Феодосіев, Агафонов, Іосіфов“ ня дойдзе; астанёмся пры сваіх Іванах-Янах, Васілёх, Панасох, Хвядосах, Гапонах, Язэпах, каторыя пры тым-жа ня ё зьяншальныя, але поўныя зьбеларушчаныя (а не збаўгарызаваныя) хвормы. А ці Чэхі, Французы, Ангелцы, Немцы ў сваіх хрысьцянскіх імёнах заховуюць хворму лацінскую? Дагэтуль не. Трэба думаць, што як яны падрастуць да інтэлігенцы нашага „крытыка“, дык пачнуць ужываць палацінску. Праўда, Татары й Туркі вымаўляюць свае імёны паарабску, бо без „сьвятое“ арабскае хвормы не спадзяюцца быць добрымі мусульманмі (як наш набожны „крытык“ „сынам Божым“).

Што датыча таковых хвормаў хрышчоных імёнаў, як „Юрка, Янка“ і пад., дык трэба яшчэ дасьледаваць, ці можна іх ужываць у значэньню поўных, зьмяншальнасьць іх цяперака ўжо ня чуецца, чаго нельга сказаць аб зьмянш. „Сымонка“. Сэрбы таковыя імёны, як „Мірко, Нікола“, ужываюць як поўныя, хоць, ведама, далёка ім да „вялікае інтэлігенцы“ ,бел.-звонаўскага філёлёга“.

---

„Аўхіма“ (Яўхіма, п. „Філёлёгу“!—прып. аўт.) сам ён—на тэй-жа балонцы свайго арт. ў „Нёмне“—піша „Акадэмія“ — хіба-ж замест.. „Акадэма“... Гэтым быццам я сам зьбіў свой артыкул аб вымове чужых словаў. Відавочна п. „Філёлёг“ думае, што, пішучы аб мове, можна адлажыць на бок лёгіку. Слова, ужытае ў вартыкуле нязгодна з агульнай асаблівасьцяй, ё ўжытым нязгодна і балей нічагуценькі. Напісаў я „Акадэмія“ часткава дзеля таго, што яна сама сябе так назвала, а часткава дзеля таго, што да адпаведнае нашай мове хвормы гэтага слова нашая інтэлігенца дзеля чужога ўплыву яшчэ ня прывыкла.

Але калі хвормы імёнаў, як Янка, Юрка і пад., ужываць у значэньню зьмяншальным, то ўсё-ж такі нічога ў іх няма паніжаючага. „Общерусскій“ „крытык“, быццам згаджаючыся з мовай нашых найлепшых пісьменьнікаў, чамусьці не зацеміў, што дыкжэ яны ў сваіх псэўдонімах прыймаюць гэтыя зьмяншальныя імёны (Янка Купала, Алесь Гарун, Міхась Зарэцкі, Зьмітрок Бядуля, Цішка Гартны). Відаць і тутака „общерос“, замест прыслухацца да беларускае мовы вухам беларускім, паслухаў яе расейскім *).

---

Прачытаўшы разгледжаны артыкул „філёлёгаў“, дзіва бярэ, на што чалавек усё гэна пісаў. Але загадку ён сам і выясьняе. У № 10 „Бел. Зв.“ ён кажа, што я павінен быў паказаць сваю вартасьць высокім установам, каторыя ўсьцяж абдараюць яго сваім даверам, як спэцыяліста“. Дык вось п. „крытык“ задаўся паказаць адваротнае з мэтаю — пэўне-ж — таксама адваротнаю. Лішняя праца! Валей-бы п. „Філёлёг“ спосабам практыкаваным ягонымі прыяцельмі зьвярнуўся ў гэтай справе да іншых установаў. Ці мо' падзеленыя ролі?

---

Напасьледак яшчэ адна зацемка. Такія словы, як „лекар, філёлёг, вучыцель“, маюць азначанае конкрэтнае значэньне. Дзеля таго варажбіт, хоць і „леча“ людзей, ня можа звацца лекарам. Таксама публіцысты ня мае права падпісавацца „Філёлёг“, хоць-бы й вельмі надужываў слова ды пісаў у „Бел. Зване“ „скарастрэльную філёлёгію“, бо гэта будзе самазванства.

*Д-р Я. Станкевіч.*

---

У № 2 „Нёмна“ надпіс „Вольная трыбуна“ над артыкулам „Дзеля абароны беларускага языка“ д-р. Я. Станкевіча зьявіўся бяз ведама і проці волі рэдакцыі „Нёмна“.

*Рэдакцыя „Нёмна“.*

---

*) А што датыча прыкладаў „Філёлёгавых“ з маскоўскае гісторыі, дык яны ня маюць жаднага значэньня ў справах беларускага языка.

# Зьбіраньне народных скарбаў.

Беларускае народнае творства належа да найбагатшых у сьвеце. Гэта самі Беларусы мо' найменей ведаюць, але гэта констатуюць этнографы, у вялікай большасьці не Беларусы.

Дагэтуль мноства сабрана align рознага роду беларускіх народных твораў. Аднак шмат яшчэ асталося сабраць. Апрача таго ня ўсе дагэтулешнія запісы зроблены добра, асабліва гэта адносіцца да запісаў, зробленых людзьмі, няўмеючымі пабеларуску. Дзеля таго трэба зьбіраць і творы (песьні, казкі й іншыя), запісаныя раней, ня кажучы ўжо аб тым, што варыянты кожнага твору маюць сваё значэньне.

У мінулым нумары „Нёмна“ ў зацемцы „Навуковая праца“ мы паведамілі нашых чытароў аб тэй вялікай працы, што зрабіў і робе дзеля беларускае песьні грам. Рыгор Шырма. Гэтта адцемім, што аб зьбіраньню беларускіх народных песьняў парупілася такжа „Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы“ пры Віленскім У-це. 17.-V. сёлета Т-ва зладзіла зборны рэфэрат, на каторым сябры Т-ва паведамілі аб запісаных імі беларускіх народных песьнях, падзяліліся сваімі доймамі (ўражаньнямі) ад запісаў ды выказалі некаторыя зацемкі аб спосабе запісаваньня.

Я. Давідовіч паведаміў, што ён запісаў 60 песьняў у Пастаўскім павеце.

Д-р Я. Станкевіч запісаў сёлета 30 песьняў у жанчынаў з в. Мэдрыкі й Кушляны й засьц. Тросьнікі Сольскае вол., Ашмянскага пав. Апрача таго д-р Я. Станкевіч паведаміў аб гэткіх перададзеных яму зборах:

а) 30-ёх песьнях, запісаных Тодарам Балабановічам у Стаўпецкім і Наваградзкім пав.;

в) звыш сотні песьняў, запісаных Язэпам Сухадольскім у Віленскім і часткава ў Сьвянцянскім пав. У вапошнім пав. Я. Сух. запісаў у Кардзіса з в. Варняны ўсё вясельле з песьнямі й абрадамі;

с) каля сотні песьняў, запісаных у Віцебскім пав. Івановам.

В. Тумаш паведаміў аб запісаных ім 120 песьнях у Вішнеўскай вол., Вялейскага пав. ды аб 46 песьнях, запісаных каля Валожына вучаньнікам Беларускае Гімназіі ў Вільні М. Урбановічам.

З сяброў Т-ва, каторыя ня выступілі на рэфэраце з паведамленьнямі, запісалі па колькі дзесяткоў песьняў А. Аніська ў Друйскай вол,, Браслаўскага пав., і Б. Чартовіч у Жой-

дзішнай вол., Вялейскага пав. Апошні запісаў ня толькі тэкст, але й мэлёды і песьняў.

Гэткім парадкам на руках у сяброў „Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы“ цяпер ё каля 600 беларускіх народных песьняў.

На запісах Іванова відавочны ўплыў расейскае мовы, паходзячы пэўне ад самога запісавальніка. Усе іншыя песьні запісаны дабра ў чыста беларускай мове. Усе запісаныя песьні як дзеля зьместу, так і дзеля хвормы вельмі цэнныя. Дзеля мовы іх цана так-жа не абы якая. Некаторыя песьні прадстаўляюць запраўдныя пэрлы поэзіі. Прывяду прыклады. Адна з песьняў, запісаных М. Урбановічам ля Валожына, пачынаецца гэтак:

*Сынок у мамкі ночку начаваў,*
*Міль сон сасьніў:*
*З пад правай рукі сакол вылятаў,*
*З пад левай рукі пірапёлачка.*

*Мамачка ўстала, мой сон разгадала:*
*У цябе, мой сынок, дома навіна:*
*Жана малада сына радзіла,*
*Сына радзіла, сама няжыва.*

Аналёгічнае прыраўнаньне ё ў „Слове аб палку Ігоравым“.

А вось песьня веснавая, запісаная Т. Балабановічам:

*Сюды лугі, туды лугі,*
*Негдзе каню напіцїся.*
*У мяне маладое да роду многа,*
*Да к некаму прыхіліцца.*
*Прыхілюся да к дубочку.*
*Дубочак, да ня войчанька,*
*А сівенькі, да ня родненькі.*

*Туды лугі, сюды лугі,*
*Негдзе каню напіцїся.*
*У мяне маладое роду многа,*
*Да к некаму прыхіліцца.*
*Прыхілюся я к вішаньцы.*
*А вішанька, да ня матачка,*
*Чырвоная, да ня родная і г. д.*

28.-V. Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы зладзіла другі зборны рэфэрат інформацыйны аб беларускай народнай песьні. На гэты раз рэфэраты былі пасьвячаны толькі некатарым, меней пашыраным, радом беларускае народнае песьні. Д-р Я. Станкевіч паінформаваў аб беларускіх народных песьнях гісторычных, рэлігійных і жыдоўскіх рэлігійных у беларускай мове. Ст. Станкевіч расказаў аб тых песьнях, што паўсталі з рукапісных і друкаваных вершаў беларускіх пісьменьнікаў XIX й XX в. ды аб сучасных (1931—1932 г.) песьнях соцыяльных. Перадамо й мы гэтта каротка весьці аб усіх менаваных песьнях.

*Гісторычных* беларускіх песьняў дагэтуль запісана мала. У „Выпісах з беларускае літаратуры“ Гарэцкага, Дзяржынскага й Каравая, ч. І. знаходзім толькі тры гісторычныя песь-

ні: 1) Татарскі пастой, 2) Абарона Крычава і 3) Бітва пад Воршай.

Я. Сухадольскі запісаў у Віленскім пав. тры гісторычныя песьні. Адна з іх аб скасаваньню прыгону пачынаецца гэтак:

Прыляцела зязюля ў сад кукаваці.
Паслухайце, грамада, што буду казаці.
Уцякала паншчына, аж горы трасьліся,
А за ею аканом: „Паншчына вярніся"!

У другой песьні „Ой паехаў мой Ясянка ў Крывіцку зямлю" перадаецца вайна з Маскоўшчынаю. Запісаў гэтую песьню Я. Сух. ў А. Барташэвіча з в. Побіні Тургельскае вол. Яшчэ цікаўшая песьня трэйцяя „За і Ігаравым палком Добра было жыцьцё мужыком", запісаная ў тэй-жа вёсцы ў Паўлы Стралы.

*Рэлігійных* або сьвятых беларускіх песьняў балей запісана. Дзеляцца яны на старшыя, чыста народныя, і пазьнейшыя, што сталіся з вершаў народнымі песьнямі ў XVII — XVIII в. Да першых належаць надрукаваныя ў „Выпісах" Гарэцкага, Дзяржынскага й Каравая: 1) „Аб галубінай кнізе", 2) „Лазар" і 3) „Аб сьв. Ягор'ю". Іваноў запісаў у Віцебскім пав. гэткія сьвятыя песьні: 1) „Аб Аляксею чалавеку Божым", 2. „Як па полю, па шырокім".

Да другога цыклю сьвятых песьняў, запісаных Івановам належаць: 1) „Пайшла паненка Хрыста шукаці", 2) „На гарэ, на Ўсіянскай" і 3) „На гэтым сьвеце".

Іваноў піша, што запісаныя ім сьвятыя песьні „пяюць у посныя дні, пераважна ў Вялікім посьце, ды на паховах".

У зборах Шырмавых ё гэткія рэлігійныя песьні: „На Ярдані" (калядка), „Прасьвятая Марыя" (калядка), „Ой гарою высокаю, Далінаю глыбокаю, Ой там ішла Божа Маці", „Прыйшлі валачобныя, людзі надта добрыя" (валачобная) і „Се Марыя сярод ночы, Пусьцілася з усей мочы На Галгофу меж кустоў Плакаці на гроб Хрыстоў".

Г. Ляўковіч перадаў д-р Я. Станкевічу дзьве рэлігійныя песьні вуніяцкія — 1) „Песьню аб цудоўнай Матцы Божай Жыравіцкай" і 2) „Песьню аб цудоўным камяні Маткі Божай Жыравіцкай".

Ня буду ўспамінаць тут аб тых рэлігійных песьнях народных, каторыя ёсьць цяперака ў беларускіх каталіцкіх кніжках да набожнасьці, як прыкл. „Ах, мой Божа, веру Табе" і інш., бо кожны іх там можа знайсьці.

Напасьледак д-р Я. Станкевіч прачытаў адну жыдоўскую рэлігійную песьню ў беларускай мове. Такія песьні напару можна яшчэ запісаць у старых жыдоў па нашых мястэчках.

Ладная колькасьць вершаў беларускіх поэтаў XIX й XX в. пайшла ў народ і сталася там народнымі творамі. Адныя з гэткіх твораў расказуюцца, як прыкладам „Баўтручок“, „Страшны суд“, „Вечарына“ (Ф. Тапчэўскага), да другіх народ дабраў ноты і пяе. Гэтак, прыкладам, песьняю стаўся верш Пранц. Багушэвіча „Вота дзеўка, вота хват, Што на ўсе тут вёскі, Хоць павесь на добры лад, Дык шкада бярозкі“; народ-жа дадаў сюды й прыпеўку—„Праўда, праўда, дык шкада бярозкі“ і г. д.

У вапошнія два гады пачалі на нашым сяле зьяўляцца й шырыцца ў шмат якіх варыянтах песьні аб цяжкім палажэньню нашага народу, аб вялікіх падатках, крыўдах, зьдзірствах ксяндзоў і да г. пад. Вось пачатак аднае із запісаных песьняў:

Прыйшлі Каляды, настаў Новы Год.
Чаго дачакаўся бедны наш народ?
Дачакаўся такой мукі,
Будуць помніць нашы ўнукі
Да сьмерці паноў.

Пачатак яшчэ аднае:

Зьбярэцеся, брацьця і сёстры,
Запейце вы песьню хоць раз,
Няхай усе людзі пачуюць,
Што гэта паны робяць з нас.

Усе вышменаваныя песьні маюць вялікае значэньне ў жыцьцю беларускага народу; сьведчаць яны такжа аб багатай душэўнай культуры нашага народу, яго гісторыі і пад. Вельмі важна, каб наш народ іх захаваў, пяяў ды каб беларуская інтэлігенцыя пры першай магчымасьці іх запісавала.

---

*Колькі заўвагаў аб тым як запісаваць народныя песьні.* На вышменаваных рэфэратах крыху казалася й аб тым як запісаваць беларускія народныя песьні. Трэба запісаваць так, як іх вымаўляюць пяючы, бяз жаднае зьмены словаў і іх хвормаў; ня трэба так-жа дзяржаць правілы граматыкі й правапісу, але запісаваць так як чуецца. Так сама трэба пакідаць (ня выкідаць) незразумелыя словы ў песьні. Калі запісавальніку здаецца, што пявун ці пявуха перакруцілі на чужы лад некаторыя словы песьні, ён мае папытацца, ці ня скажуць начай, пабеларуску. Калі аднак дастане адказ, што чужыя словы ў тэй ці іншай песьні ўжываюцца заўсёды або звычайна, дык трэба іх пакінуць, у праціўным пры-

падку замяніць словамі беларускімі, звычайна ў песьні ўжыванымі.

Д-р Я. Станкевіч зьвярнуў увагу, што ўперад чымся запісаваць тэкст песьні із слоў казаных, трэба праслухаць тую-ж песьню петую і парабіць некаторыя зацемкі аб яе мове. Справа ў тым, што нярэдка тэкст песьні казанай розьніцца ад тэксту тае-ж песьні пяянай. Бывае гэта ў наступных прыпадках: 1) калі дзеля складу або рыму націск у песьні зьменены, прыкл.:

Ні хачу стаяць, каню вады даць:
Зімна *роса*, а я *боса*—ні магу стаяць.

або: Пастаўлю я *волы* на высокія *горы*.

2) калі ў якім слове песьні націск астаўся стары, а ў гамонкавай мове ён зьмяніўся, прыкл.:

Ёсьць у майго брата коні вараныя,
Я сяду, жаганю *ляты* маладыя (слова „ляты“
[мае ў гэтай песьні націск на *ы*).

3) калі ў песьні захавалася, удзержаваная разьмерам, старая сынтаксычная хорма, замененая ўжо накшай у мове гамонкавай. Прыклады:

Ой сынку, сынку нядоля твая, нішчасьця тваё:
*Твајім-жа дварэ* навіна стала,
Твая жоначка сына радзіла.

або: Ёсьць у мяне хлеб-соль *возя*:
Будзя абед у дарозя.

Падчыркненыя словы апошніх двух прыкладаў пастаўленыя ў месным склоне бяспрыйменным, няўжываным у цяперашняй мове гамонкавай.

4) калі дзеля рыму канчатак слова ў песьні зьменены, што напару магчыма было зрабіць дзякуючы накшасьці даўнейшае вымовы. Прыкл.:

Плыві, плыві, качарак, дадому,
Аддам цябе, качарак, *жыдому*.

У „жыдому“ замест „жыдом“ *у* на канцы зьявілася дзеля рымаваньня з „дадому“, але магло яно зьявіцца дзякуючы таму, што ў сівую старыну па *м* было яшчэ на канцы *ъ*, вымаўлянае блізка да *у*, або наагул дзякуючы асаблівай (вусьнянай, знач. блізкой да *у*) вымове *м*.

Калі Я. Стан. чуў песьні казаныя, дык усе менаваныя прыклады розьніліся й гучэлі гэтак: 1) Зімная *раса*, а я *босая*, валы, 2) леты, 3) У твајім-жа дварэ, вазе, 4) жыдом.

Пэўне ё яшчэ й іншыя прыпадкі, калі мова песьні пяянае розьніцца ад мовы яе тэксту казанага.

Запісуючы якую песьню, трэба адцеміць *дзе* (точна: паказаць павет, воласьць і вёску) і ў каго (імя й прозьвішча) песьня запісана ды падаць век пявухі або пявуна.

Апрача таго трэба напісаць жыцьцяпіс кожнае пяюхі або пяюна, у каторых хто запісуе песьні. У жыцьцяпісе трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на тыя мамэнты ў жыцьцю пяюхі ці пяюна, каторыя маглі мець уплыў на якасьць запісаваных ад іх песьняў, чысьціню мовы песьняў і інш. Гэткімі мамэнтамі могуць быць, прыкладам, пісьменнасьць, жыцьцё ў месьце або ля места, служба ў войску, уменьне чужое мовы і карыстаньне ёю якісь час.

Вельмі пажадана, каб да жыцьцяпісу была дададзена фотографія пяюхі ці пяюна.

---

Напасьледак, нельга ня выказаць некаторага зьдзіўленьня й жалю. Жывём мы ў унівэрсытэцкім месце, у каторым у прыдатак яшчэ ёсьць Інстытут Дасьледаваньня Ўсходняе Эўропы, а тымчасам запісаныя 1600 песьняў (1000 Р. Шырмаю і 600 сябрамі Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы) ніхто ня зьбіраецца друкаваць. Мала гэтага, шмат песьняў запісаны без мэлёдыяў. Што-ж было-б прыраднейшае, каб даць фонограф дзеля запісу іх нотаў, тым балей, што добра ведама дзе й у каго на сяле тэксты песьняў запісаны.

*Я. С.*

## Доля беларускіх сярэдніх школаў.

Новы, урадова званы лепшым, курс у вадносінах да беларускіх школаў улада пачала ліквідацыяй Беларускае Гімназіі ў Радашкавічах. Летась была зьліквідавана школьным куратарам Беларуская Гімназія ў Клецку. Сёлета зьліквідавана ў Вільні ўрадовая двуязычная (польска-беларуская) Вучыцельская Сэмінарыя імені Фр. Багушэвіча. Дадамо да гэтага, што ўрадовыя беларускія й двуязычныя пачаткавыя школы зьліквідаваны афіцыяльна або беларушчына іх існуе толькі на паперы. Гэтак, напрыклад, на вусныя загады школьнага інспэктара сполёнізавана беларуская пачаткавая школа шасьціклясная на Новым Сьвеце ў Вільні. Тое самое сталася з двуязычнаю школаю ў Маладзечне, дзе сьпярша ад усяго ўтраквізму асталася толькі беларуская мова, а пасьлей, калі дзеці адмовіліся вучыцца на лемантарох Ст. Л.—Маеўскага, надрукаваных польскім альфабэтам, была

й беларуская мова аддалена. Падобных прыкладаў можна было-б прывесьці ня мала.

Як бачым, польская школьная ўлада праявіла ў адносінах да беларускіх школаў проста шалёны ліквідацыйны тэмп. Беларусам быццам аставалася пашкадаваць благое памяці ўлады эндэцкае, каторая, хоць і не хавалася з сваім жаданьнем „зьесьці“ Беларусаў, але й дзесятай часьці не праяўляла такое ліквідацыйнае энэргіі. Але Беларусы зрабілі штось іншае: бачачы ліквідаваньне беларускае асьветы, беларускае грамадзянства і ўвесь народ зразумелі, што йдзе справа аб ліквідаваньню беларускага жыцьця наагул і консэквэнтна ўстанавілі свае адносіны да ліквідатараў.

Аднак сказаным вышэй ліквідацыйныя ймкненьні школьнае ўлады ня скончыліся. 19-га мая сёлета віленскі школьны куратар зьвярнуўся да Бацькаўскага Комітэту Беларускае Гімназіі ў Вільні ды да Бацькаўскага Комітэту Беларускае Гімназіі ў Наваградку, як да концэсыянэраў, з пісьменнай пропозыцыяй ператварыць гімназіі ў урадовыя ў хворме паралельных клясаў пры дзьвюх польскіх гімназіях — у Вільні пры гімназіі Славацкага, у Наваградку пры Міцкевіча. Усё беларускае грамадзянства зразумела куратараву пропозыцыю як жаданьне гэткім спосабам борзда зьліквідаваць дзьве апошнія беларускія гімназіі. 27-га мая сёлета зборка Бацькаўскага Комітэту Беларускае Гімназіі ў Вільні станоўка адмовілася згадзіцца на прыведзеную пропозыцыю куратара, моцна пастанаўляючы далей весьці Гімназію як прыватную. Як чуваць, тое самае зрабіў і Бацькаўскі Комітэт Беларускае Гімназіі ў Наваградку.

26-га чэрвеня сёл. была другая агульная зборка Бацьк. Комітэту Віленскае Беларускае Гімназіі На гэтай зборцы быў перавыбраны Прэзыдыюм Комітэту. У новы Прэзыдыюм увайшлі гэткія асобы: М. Кепель (старшыня), А. Войцік, Яз. Найдзюк, Падагель і М. Сіняўскі. Новы Прэзыдыюм энэргічна ўзяўся выпаўняць пастанову агульнае зборкі Комітэту, г. зн. удзержаваць Беларускую Гімназію ў Вільні як прыватную і разьвіваць яе.

Школьны куратар пастрашыў Бацькаўскі Комітэт, што калі-б ён не згадзіўся на ператварэньне Гімназіі ў урадовую, дык прыватная Беларуская Гімназія ў Вільні ў 1932—33 школьным годзе не дастане этатаў. Мы спадзяёмся, што куратар запраўды ня ўжыцьцёвіць свайго пастрашаньня, бо было-б гэта вельмі несправядліва. Калі-б аднак проці ўсялякае лёгікі так сталася, дык трэба ведаць, што ўжо зьявіўся цэлы комплект кваліфікаваных вучыцялёў - Беларусаў, каторыя згаджаюцца працаваць у Гімназіі пры ўсялякіх ва-



ХОР ПРЫ БЕЛАРУСКІМ СТУДЭНСКІМ САЮЗЕ Ў ВІЛЬНІ
пад кіраўніцтвам грам. Р. Шырмы (на фотографіі не стае колькі асобаў хорыстых).

рунках і навет зусім дарма. Беларускае грамадзянства пэўнае, што новы Прэзыдыюм Бацькаўскага Комітэту разам з ідэйнымі вучыцелямі ня толькі патрапіць удзержыць Гімназію як прыватную, але й шмат паправіць яе стан моральны, нацыянальны й навуковы. А папраўляць ёсьць шмат чаго. Два гады гаспадараньня ў ёй дырэктара Міхалевіча, б. земскага начальніка, пагоршыла ўсестароньне роўнь Гімназіі. З боку моральнага за дырэктарства Міхалевіча ня толькі ня было ніякага ўзгадаваньня, але моладзь дэмаралізавалася. Нацыянальна „русскій человѣкъ“ п. Міхалевіч Гімназію русыфікаваў, наладзіўшы паміж іншым дзеля гэтага контакт з расейскай гімназіяй Пасьпелавай.

# Концэрты беларускае песьні.

Сёлета ў чэрвені хор Беларускага Студэнскага Саюзу пад кіраўніцтвам ведамага рэгента беларускіх хораў, грам. Р. Шырмы, даў два концэрты беларускае песьні — адзін 4.-VI. ў залі гандлёва-прамысловага клюбу, другі 15.-VI. ў Бэрнадынскім садзе. Пяялі харавыя песьні, гармонізаваныя Аладавам, Анцавам, Галкоўскім, Грачанінавам, Левантовічам і інш. Апрача хору выступала й солістка грам. Л. Сасноўшчыха, што, здаецца, першая тут у Вільні яшчэ з 1919—20 году пачала публічна выступаць з беларускімі романсамі.

Дзеля мастацкага апрацаваньня беларускае народнае мэлёдыі на першае месца трэба паставіць Грачанінава. Ніхто як ён ня ўмее ў сваіх творах, апрача хараства, захаваць так добра й дух беларускае народнае песьні. Некаторыя з яго твораў (як „Перапёлка“, „Ішоў раёк“) проста зьяўляюцца шэдэўрамі дзеля свайго чароўнага хараства і народнага колёрыту. За ім бязумоўна стаіць грам. Галкоўскі, творы каторага ня ўступаюць па мастацтву, а часта так сама захоплююць і сваім народным духам, якім композытар яўна сам прасякаецца што раз балей і ляпей. „Каля плоту крапівачка“, „Чырвоная калінка“, сюіта „Каханьне“ і некаторыя іншыя зьяўляюцца бязумоўна аднымі з найлепшых апрацаваньняў народнае песьні, а квартэт „Месяц“ чаруе сваёй і мэлёдыяй і мастацкай гармонізацыяй.

Хор у пастаноўцы і пад кіраўніцтвам Шырмы праявіў сябе вельмі добра. Ведаючы нашыя варункі, трудна было спадзявацца ад аматарскага хору такое ўдачы. Стройнасьць, дружнасьць, гібкасьць, нюансыроўка і ўсе музыкальныя эфэкты былі выпаўнены ня толькі з мастацкай тэхнікай, але й з глыбокім пачуцьцём ды знацьцём духа народнае песьні.

Солістка гр. Сасноўшчыха так сама, як заўсёды, стаяла на вышыні і дужа падабалася сваім надзвычайна высокім, свабодным і прыгожым сопрано. З асаблівым пачуцьцём яна выпаўніла „на біс“ романс аднаго тутэйшага аматара „Кветкі асеньнія“, які публіка змусіла артыстку паўтарыць.

Тая ўдача, што ўва ўсіх концэртах выпала на долю беларускае музыкі, павінна змусіць нашых дзеячоў і аматараў народнае музыкі падумаць аб справе яе далейшага разьвіцьця й пашырэньня. На чародзе панашаму стаіць пытаньне аб стварэньню ў Вільні нейкага беларускага музыкальнага Т-ва ці хоць гуртка, які заняўся-б гэтай справай.

*В. Б.*

---

Беларускія „полёнофілы“ ня могуць ніяк даруваць нам, што мы не дапусьцілі, каб „Нёман“ перайшоў у іхнія рукі і быў імі зьліквідаваны. Сыстэматычна ў „Бел. Зване“ вядзецца зьвяга на „Нёман“, выдумляюцца няіснуючыя ніколі былыя й цяперашнія сябры рэдакцыі, падобныя-ж зборкі й протэсты. Чамусьці „Б. Звану“ асабліва хочацца зрабіць д-ра Я. Станкевіча сябром нашае Рэд. Калегіі. Заяўляем, што д-р Я. Станкевіч ёсьць прыяцелем нашага часапісу і яго супрацаўнікам, але да Рэдакцыі не належыў і не належа. Уважаем, што было-б пажаданым, каб д-р Я. Станкевіч увайшоў у склад Рэдакцыі „Нёмна“ і спадзяёмся, што з часам гэта станецца.

Што датыча нападкаў на нас „Б. Звана“, дык заяўляем, што з людзьмі, каторыя апусьціліся ніжэй Паўлюкевіча ў ніякую полеміку ня ўступаем.

*Рэдакцыя.*

---

**Адказы Рэдакцыі.** **Я. Вількоўшчыку.** За прысланыя вершы дзякуем. Вы наракаеце, што мы не надрукавалі ўсіх Вашых вершаў, якія маем у сябе, просім прыслаць болей. У гэтым нічога дзіўнога, бо Рэдакцыя мусіць выбіраць толькі лепшыя вершы да друку. **Аляксандры Пачобуту.** Вершы Вашыя вельмі слабыя і дзеля гэтага друкаваць іх ня можам. Перад тым, як можна будзе іх друкаваць, Вы павінны вельмі сур'ёзна яшчэ папрацаваць над сабой. **М. Васільку.** Доўга ня маем ад Вас жаднае весткі. Прысылайце, калі ласка, матар'ялы ў наступныя сшыткі „Нёмна“. **С. Куляшу.** Просім прысылаць свае творы дзеля друкаваньня іх у „Нёмне“.

---

**ЗЬМЕСТ:**


---

Выдавец і Рэдактар С. Станкевіч.

Друкарня ім. Фр. Скарыны. Вільня, Завальная вуліца 6—10.